





# 7-8 МАЯ АДБЫЛІСЯ VI-я "БРАСЛАЎСКІЯ ЧЫТАННІ", ПРЫСВЕЧАНЫЯ 150 ГАДАВІНЕ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ СТАНІСЛАВА НАРБУТА

Удзельнікамі і гасцямі навукова-краязнаўчай канферэнцыі, паседжанні якой адбываліся ў актавай зале Браслаўскай гімназіі, былі больш за 60 чалавек. Яны прадстаўлялі розныя рэгіёны Віцебшчыны і Беларусі. Былі ўдзельнікі з Літвы, Польшчы, Латвіі, Расіі.

Браслаў вітаў удзельнікаў традыцыйнай сустрэчы гуманітарыяў добрым веснавым надвор"ем і ўзнёслым настроем.



## ВЕСТКІ

12 красавіка ў Цэнтры дзіцячай творчасці прайшоў заключны, вочны тур раённай краязнаўчай алімпіяды. Удзельнікамі тура сталі 17 школьнікаў, якія паказалі найлепшыя вынікі ў папярэдніх завочных турах. Пытанні тура былі прысвечаны Вялікай Айчыннай вайне на Браслаўшчыне.

Пераможцай тура і ўсёй алімпіяды стала вучаніца Дрысвяцкай СШ Аксана Ігнацьева. Найлепшы вынік на завочных турах у Ірыны Сапель з Браслаўскай СШ № 2. Журы адзначыла таксама найбольш актыўных удзельнікаў алімпіяды.



15 красавіка на базе Браслаўскай гімназіі прайшла раённая вучнёўская навукова-практычная канферэнцыя, арганізаваная аддзелам адукацыі. Праца канферэнцыі праходзіла на трох секцыях: матэматычна-прыродазнаўчых навук, гуманітарных навук, экалагічна-краязнаўчай. У журы экалагічна-краязнаўчай секцыі ўваходзілі супрацоўнікі музея, Нацыянальнага парка, аддзела адукацыі. Лепшай прызнана праца вучняў Дрысвяцкай школы пра мясцовы сядзібны парк, якую абараняла Алеся Мартынкіна. Былі адзначаны таксама працы Інэсы Лаўрыновіч з Браслаўскай гімназіі пра вялікіх князёў Алену і Аляксандра, вучняў Грытунскай школы па экалогіі, па збору тапанімічнага матэрыяла наваколля былой вёскі Сталпоўка, вучняў СШ № 2 г.Браслава па экалогіі возера Струста.



Творчая група вучняў Друйскай школы пад кіраўніцтвам настаўніка Міхаіла Ставіцкага прыняла ўдзел у закрыцці фестывалю "Дзень Зямлі – Беларусь-2003" у намінацыі "Адраджэнне забытага помніка культуры Беларусі", які адбыўся ў Мінску 25-26 красавіка. Школьнікі прапанавалі варыянты добраўпарадкавання тэрыторыі вакол Барысавага каменя – валуна з надпісам і крыжом XII ст. Праца прызнана адной з лепшых у Беларусі і стала дыпламантам. Конкурс праводзіўся пад эгідай Міністэрства адукацыі, Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі, грамадскай арганізацыі "Зялёны крыж".

На шостую канферэнцыю была пададзена рэкордная колькасць заявак – 53 тэмы. З аднаго боку, гэта лічба радавала, бо сведчыла аб папулярнасці чытанняў сярод навукоўцаў розных даследчых цэнтраў. З другога боку, за два дні праслухаць такую колькасць даследчыкаў вельмі складана. Арганізатары нікому не адмовілі ў запрашэнні на чытанні, усе тэмы падаліся цікавымі і важнымі для гісторыі Браслаўшчыны. Заставалася спадзявацца, што не ўсе ўдзельнікі даедуць да Браслава. Акурат так і атрымалася. Аднак нават парадзелая (праўда, не вельмі істотна) праграма прымушала працаваць у напружаным рытме ўсе два дні.

7 мая з 8.30 гадзін гасцей і ўдзельнікаў ужо чакала падрыхтаваная і святочна прыбраная актавая зала гімназіі. Паступова зала напаўняецца.

# БРАСЛАЎСКІЯ ЧЫТАННІ - 2003



Выступае Алена Глагоўская (Гданьск. Польшча)

Адкрывае чытанні дырэктар музейнага аб'яднання Галіна Падалян. Яна робіць гэта ўжо ў шосты раз. З вітальнымі словамі да гасцей і ўдзельнікаў звяртаецца намеснік старшыні райвыканкама Ніна Пучынская. Аб постаці Станіслава Нарбута прамаўляе Андрэй Майсяёнак з Гродна, выдатны навуковец, чалавек, які першым стаў даследваць жыццё і дзейнасць Станіслава Нарбута. Ад імя аргкамітэта выступае супрацоўнік музея Кастусь Шыдлоўскі. Перадаюцца вітальныя словы ад асоб і арганізацый: Яніны і Рышарда Гелертаў (Варшава), унучкі і праўнука Станіслава Нарбута, таварыстваў выхадцаў з Браслаўшчыны ў Ольштыне, Варшаве і інш., навукоўцаў, што не змаглі прыехаць. Першы сюрпрыз для гасцей і ўдзельнікаў: у зале адбываецца спецыяльнае гашэнне мастацкага канверта, які Міністэрства сувязі Беларусі выпусціла да юбілея таленавітага браслаўскага лекара. Па просьбе музея Міністэрства сувязі дазволіла правесці спецгашэнне ў будынку гімназіі менавіта пры адкрыцці канферэнцыі.

Пасля ўрачыстай часткі канферэнцыя пераходзіць на працоўны рэжым. Адзін за адным выступаюць даследчыкі з паведамленнямі аб навейшых распрацоўках па гісторыі і культуры Браслаўшчыны. Большасць дакладаў вызначае высокі ўзровень, матэрыялы дакладчыкаў уводзяцца ва ўжытак упершыню.



У зале паседжанняў

# ВЕСТКІ

У сярэдзіне красавіка ў Браславе адбылася першая канферэнцыя па падрыхтоўцы стратэгіі развіцця сельскага турызма ў еўрарэгіёне "Азёрны край", на якой прысутнічалі прадстаўнікі памежных тэрыторый Літвы, Латвіі і Беларусі. Сустрэча была выклікана пачаткам працы над рэарганізацыяй праекта "Еўрарэгіён: кіраванне і маркетынг сельскага турызма", зацверджанага фондам малых праектаў праграмы TASIS. Пад гэты праект Еўразвяз выдаткаваў 254 тысячы еўра. Партнёрам беларускіх рэгіёнаў выступае самакіраванне Баўтцен з Германіі. Тэрмін рэалізацыі – год (лістапад 2002 – лістапад 2003 гг.).



9-10 мая на базе лагера "Зубраня" праходзіла Рэспубліканская канферэнцыя па падвядзенню вынікаў III этапа краязнаўчай экспедыцыі "Наш край". Браслаўшчыну прадстаўлялі каманды Кансталінскай школы (В.Аляшкевіч, Я.Яхімовіч, кіраўнік В.Бунто) у намінацыі "Прыродная спадчына" і Відзаўскай школы (Ж.Тамко, А.Прысяжнюк, кіраўнік А.Насыр) у намінацыі "Адраджэнне культурных традыцый". Абедзьве каманды выступілі надзвычай удала і трапілі ў лік лепшых па сваіх намінацыях.



Калектыў аматараў жывой археалогіі пры Браслаўскім музейным аб'яднанні зрабіў першы выезд у гэтым годзе. Па запрашэнню арганізатараў этапа Кубка свету па конных відах спорту, што праходзіў у Ратамцы 25 мая. Майстры разгарнулі сваю экспазіцыю, у якой былі прадстаўлены даўнія тэхналогіі пляцення, ганчарства, разьбярства, вырабаў з бяросты, прыгатавання ежы, пісьменства. Яна стала яскравым момантам у культурнай праграме мерапрыемства.



Цікавы матэрыял выяўлены школьнікамі-краязнаўцамі Грытупскай базавай школы. У старой жыхаркі Валерыі Радзэвіч, аказвасцца, захоўваюцца дакументы шляхецкай сям'і Грабоўскіх з в.Матэйкяны. На падставе гэтых дакументаў вучаніца школы В.Радзэвіч склала радавод сям'і.

Кідаецца ў вочы, што ўсе выступаючыя ў асноўным маладога веку, у іх свежы погляд на гістарычныя праблемы, жаданне шукаць нетрадыцыйныя падыходы. Браслаўскія чытанні для многіх стануць добрай школай ва ўменні падаваць гістарычны матэрыял, адстойваць свае погляды.



У кулуарах канферэнцыі

Разам з моладдзю прыемна бачыць прызнаных мэтраў навукі: археолагаў Людмілу Дучыц, Аляксандра Егарэйчанку, Генадзя Семянчука, спецыяліста па нумізматыцы Валянціна Рабцэвіча, даследчыцу народнай творчасці Вольгу Лабачэўскую, гісторыка з Польшчы Алену Глагоўскую. Цікавыя матэрыялы да чытанняў падрыхтавалі вядомыя краязнаўцы: Вітаўт Ермалёнак з Мёр, Уладзіслаў Ляскоўскі з Шаркаўшчыны, Язэп Бунта з Глыбокага, Кліменці Кожан з Германавіч. Сярод удзельнікаў хацелася б вылучыць тых, хто прыязджае на Браслаўскія канферэнцыі шосты раз: гэта – археолаг Л.Дучыц (Мінск), краязныўцы В.Ермалёнак, К.Кожан, Я.Бунта. Старажылам чытанняў з'яўляецца і Генадзь Семянчук, гісторык, археолаг з Гродзенскага ўніверсітэта. Ён надзвычай умела вёў паседжанні, рабіў падсумаванне працы ўдзельнікаў канферэнцыі. Генадзь Семянчук шмат зрабіў і па арганізацыі апошняй Браслаўскай канферэнцыі, быў нефармальным лідэрам прадстаўнічай Гродзенскай дэлегацыі, якую сам і сфармаваў. Гэтым працягваецца традыцыя моцных сувязей Браслаўскіх чытанняў з гродзенскімі гісторыкамі, пачатак якой паклалі выдатныя навукоўцы Міхась Ткачоў і Андрэй Майсяёнак – заснавальнікі канферэнцый у Браславе.

Важнейшая частка любой канферэнцыі – кантакты паміж удзельнікамі і гасцямі падчас перапынкаў. Многія ўдзельнікі адзначалі, што канферэнцыі ў Браславе спрыяюць устанаўленню сяброўскіх адносін, абмеркаванню новых ідэй. Дадаем, што ўзбагачаюцца новымі сувязямі і супрацоўнікі музея, настаўнікі гісторыі мясцовых школ.

У гэтым годзе сярод гасцей чытанняў можна было ўбачыць настаўнікаў, супрацоўнікаў Нацыянальнага парка, асобных аматараў гісторыі з Браслава. Іх было, праўда, няшмат, але матэрыялы канферэнцыі знойдуць свайго спажыўца. Неўзабаве іх пачне друкаваць "раёнка", бюлетэнь "Павет". У кастрычніку-лістападзе запланавана выданне матэрыялаў асобным зборнікам, які атрымаюць і школьныя бібліятэкі.

Праграма "Браслаўскіх чытанняў" мела яшчэ шэраг пунктаў, звязаных з ушанаваннем памяці Ст.Нарбута. 7 мая была ўрачыста адкрыта выстава "Свецячы іншым, згараю сам...", разгорнутая ў памяшканні Музея традыцыйнай культуры. На выставе прадстаўлена вялікая колькасць матэрыялаў, якія распавядаюць пра жыццё і дзейнасць Ст.Нарбута.



Юозас Рымкус з Каўнаса і Ганна Стэльмачонак з Варшавы

На Замкавай гары адбылося ўскладанне кветак да помніка на магіле таленавітага лекара. Былі запалены знічы ў яго памяць. А 19-й гадзіне ў Браслаўскім парафіяльным касцёле Нараджэння Маці Божай ксёндз Лешак Вітвіцкі правёў урачыстую імшу ў памяць Ст.Нарбута. Святар касцёла вітаў у храме ўдзельнікаў і гасцей чытанняў. 8 мая была прадстаўлена прыгожая паштоўка, што была выпушчана да канферэнцыі мінскім выдавецтвам "Рыфтур", дзякуючы падтрымцы яго дырэктара Сяргея Плыткевіча. На паштоўцы -

партрэт Ст.Нарбута працы мінскага мастака Уладзіміра Кандрусевіча. Арыгінал карціны займае цэнтральнае месца на выставе ў Музеі традыцыйнай культуры, а копія ўпрыгожвала залу паседжанняў канферэнцыі.

Надоўга ў памяці ўдзельнікаў і гасцей чытанняў застанецца і сяброўская вечарына, і цырымонія закрыцця канферэнцыі. Пры развітанні найчасцей гучалі словы: "Да сустрэчы на VII-х Браслаўскіх чытаннях!.."

Усе сыходзіліся ў адной выснове – чарговая канферэнцыя ў Браславе ўдалася, яна стала важнай падзеяй у жыцці рэгіёна. Каб гэта адбылося, напружана працавалі сябры аргкамітэта, усе супрацоўнікі музейнага аб'яднання. Чытанні б не адбыліся без вялікай дапамогі, якую аказалі арганізатарам розныя ўстановы і асобы. Удзячнасць за гэту дапамогу хочацца выказаць Віцебскаму аддзяленню грамадскага аб'яднання "Фонд імя Льва Сапегі" і асобна яго кіраўніку Хрыстафору Жэляпаву, упраўленню культуры Віцебскага аблвыканкама і асабіста Мікалаю Пашынскаму і Ніне Сулецкай, раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і асабіста яе начальніку Мікалаю Падаляну, браслаўчанам з Варшавы, Джону Конраду з ЗША, старшыням калагсаў "Маяк" Раману Шукелю, "Уперад" Віктару Шукелю, генеральнаму дырэктару Нацыянальнага парка "Браслаўскія азёры" Уладзіміру Сянькоўскаму, прадпрымальнікам Леаніду Федуковічу, Зоі Зінюк, Святлане Хір'янавай, дырэктарам хлебнага завода Валерыю Пятушку, малочнага завода Валянціну Рагоўскаму.

Фінансавыя магчымасці арганізатараў былі вельмі абмежаванымі, і размяшчаліся госці і ўдзельнікі па кватэрах супрацоўнікаў і сяброў музея. Пражыванне для 11-ці чалавек забяспечылі Алена і Алег Селяхі.

Асобая ўдзячнасць Браслаўскай гімназіі, на базе якой прайшла канферэнцыя і асабіста яе дырэктару Наталлі Андрук.

Як адно імгненне мільганулі два дні "Браслаўскіх чытанняў-2003" – і вось яны ўжо сталі самі гісторыяй. Толькі след ад гэтай падзеі, спадзяемся, будзе глыбокі і трывалы.



**Удзельнікі і госці канферэнцыі ля помніка С.Нарбуту**

## Праграма канферэнцыі "Браслаўскія чытанні – 2003".

**7 мая**

9⁰⁰ - 9³⁰ Рэгістрацыя ўдзельнікаў і гасцей. Браслаўская гімназія

9³⁰ **Адкрыццё канферэнцыі. Вітальныя словы. Слова пра Станіслава Нарбута.**

10³⁰ - 13⁰⁰ Ранішняе паседжанне.

- **Альбіна Семянчук. Гродна**. Тэадор Нарбут – арыгінальны гістарыёграф Вялікага княства Літоўскага і Браслаўшчыны.
- **Аляксандр Дабрыян. Гродна**. Археалагічная спадчына Тэадора Нарбута.
- **Вітаўт Ермалёнак. Мёры**. Станіслаў Нарбут і яго сувязі са шляхтай Мёршчыны.
- **Яўген Цішчанка. Гродна. Таццяна Святловіч. Мінск**. Арганізацыя аховы здароўя ў Беларусі ў канцы XIX – першай палове XX стст.
- **Валеры Мянжынскі. Мінск**. Звесткі па гісторыі Браслаўшчыны першай паловы XVI ст. у кнігах Метрыкі Вялікага княства Літоўскага.
- **Юозас Рымкус. Каўнас. Літва**. Беларусь у перыядычных выданнях Літвы. 1891 – 1918.
- **Людміла Дучыц. Мінск**. Старадаўнія строі браслаўчан (паводле археалагічных матэрыялаў).
- **Андрэй Радаман. Мінск**. Соймікавая ўхвала шляхты Браслаўскага павета ад 19 снежня 1600 г. у кантэксце вайны Рэчы Паспалітай і Швецыі.
- **Аляксандр Ярашэвіч. Мінск**. Абраз Мадонны з дзіцём з касцёла бернардзінцаў у Друі.
- **Генадзь Семянчук. Гродна**. Сацыяльная тапаграфія населеных пунктаў Браслаўшчыны.
- **Вольга Лабачэўская. Мінск**. Люцыян Туркоўскі – даследчык народнага ткацтва Віленшчыны і Навагрудчыны.
- **Расціслаў Герасімовіч. Наталля Іванова. Маладзечна**. Дакументы Занальнага дзяржаўнага архіва г. Маладзечна па гісторыі Браслаўшчыны.

14⁰⁰ - 17⁰⁰ Дзённае паседжанне.

- **Андрэй Янушкевіч. Уладзімір Падалінскі. Мінск**. Юры Осцік, староста браслаўскі: выбраныя старонкі палітычнай біяграфіі.
- **Андрэй Хасанаў. Мінск**. "Кривда людей Браславской волости" вялікаму князю літоўскаму Жыгімонту Старому на браслаўскага "державцу" Паўла Сапегу як крыніца па гісторыі сацыяльных канфліктаў на землях ВКЛ ў XVI ст.
- **Антон Кучыньскі. Вроцлаў. Польшча**. Сустрэчы Юзэфа Копаця з Камчаткай і ітэльменамі. Антрапагеаграфічныя даследванні – замалёўка праблемы.
- **Сяргей Дзярновіч. Мінск**. Паўночна-еўрапейскія старажытнасці з Браслаўскага Паазер'я ў кантэксце культурна-гістарычных працэсаў IX-XI стст.
- **Герман Брэгер. Мінск**. Сям'я О.Гедэмана, славутага гісторыка Браслаўшчыны па матэрыялах Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі.
- **Алена Глагоўская. Гданьск. Польшча**. Спадчына Пётры Сергіевіча ў Польшчы.
- **Наталля Рыбак. Гродна**. Браслаўшчына 30-х гадоў (па матэрыялах справаздачы чыноўнікаў памежнага ведамства).
- **Рышард Сацюк. Беласток. Польшча**. Альфонс Карны – opus vite (справа жыцця).
- **Мікалай Мельнікаў. Уладзімір Карэлін. Мінск**. Творы дэкаратыўна-ужытковага мастацтва ў культавых установах Браслаўскага рэгіёна.
- **Язэп Бунто. Глыбокае**. Ваенныя падзеі 1920 г. на тэрыторыі Браслаўска-Дзісенска-Глыбоцкага рэгіёна.
- **Ганна Стэльмачонак. Варшава. Польшча**. Польская мова на Браслаўшчыне: соцыялінгвістычная сітуацыя.
- **Аляксандр Егарэйчанка. Мінск**. Нурвяны – знішчанае гарадзішча.
- **Любоў Грушына. Пскоў. Расія**. Браслаўшчына ў праграмах Пскоўскіх семінараў.
- **Віталь Галубовіч. Новапалацк**. Інструкцыя паслам ад шляхты Браслаўскага павета на сойм 1640 г.

17³⁰ Адкрыццё выставы, прысвечанай 150 гадавіне з дня нараджэння Станіслава Нарбута. Выставачная зала Музея традыцыйнай культуры.
18³⁰ Укладанне кветак да помніка на Замкавай Гары.
19⁰⁰ Імша ў Браслаўскім касцёле Нараджэння Маці Божай.

### 8 мая

$9^{00} – 13^{00}$ Раніцнае паседжанне.

- **Генадзь Сівохін. Мінск**. Мадэрнізацыя: некаторыя аспекты транс-фармацыі гендэрных роляў у беларусаў (па матэрыялах палявых этнаграфічных даследванняў на Браслаўшчыне).
- **Віталь Сідаровіч. Мінск**. Каменныя свідраваныя сякеры з Браслаў-скага Паазер'я ў зборы Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі.
- **Васіль Варонін. Мінск**. Браслаўскі Прачысценскі манастыр на Востраве паводле прывілея Жыгімонта I 1540 г.
- **Валянцін Рабцэвіч. Мінск**. Манеты Браслаўскага манастыра.
- **Кшыштаф Ёдчык. Беласток. Польшча**. З гісторыі Браслаўскага дэканата.
- **Андрэй Мацук. Мінск**. Шляхта ВКЛ у дзяржаўных структурах Браслаўскага павета з 1721 па 1764 гг.
- **Аляксей Шаланда. Гродна**. Геральдыка Браслаўскай шляхты: новыя крыніцы.
- **Вячаслаў Жукаў. Юлія Юркавец. Генадзь Семянчук. Гродна**. Тапаграфія, храналогія і этнакультурная характарыстыка сярэднявечнага грунтовага могільніка Дрысвяты-Пашавічы.
- **Аляксандр Егарэйчанка. Сяргей Шаволін. Мінск**. Двушыпныя і аднашыпныя касцяныя наканечнікі стрэлаў (па матэрыялах даследванняў ранніх гарадзішчаў Браслаўшчыны.
- **Мікола Паўловіч. Даўгаўпілс. Латвія**. Культурнае жыццё Брас-лаўшчыны 40-50-х гадоў па матэрыялах сямейнага архіва Ламбертаў.
- **Вадзім Шадыра. Мінск**. Селішча Тарылава на возеры Укля.
- **Сяргей Піваварчык. Гродна**. Гісторыя савецкай фартыфікацыі ў Полацкім Падзвінні.
- **Юлія Латушкава. Мінск**. Конь і чорт – старажытныя міфалагічныя вобразы па матэрыялах Браслаўшчыны і сумежных тэрыторый.
- **Аляксандр Плавінскі. Мікалай Плавінскі. Мінск**. Новыя дадзеныя па гісторыі Браслаўскага Паазер'я на мяжы I і II тыс. н.э. (па матэрыялах раскопак курганнага могільніка Опса).
- **Наталля Высоцкая. Вілейка**. Друя ў складзе Расійскай імперыі.
- **Вольга Емяльянчык. Наваполацк**. Антрапалагічная характарыстыка краніялагічных матэрыялаў ранне-сярэднявечнага грунтовага могільніка Дрысвяты-Пашавічы.
- **Наталля Ляўсік. Гродна**. Тыпалогія і тэхналогія бронзавых упрыгажэнняў Браслаўшчыны (па матэрыялах раскопак гарадзішчаў у Браславе і Дрысвятах).

$13^{30} – 16^{00}$ Дзённае паседжанне.

- **Юлія Налобава. Мінск**. Да пытання аб інтэрпрэтатыўнай антрапалогіі (па матэрыялах палявых этнаграфічных даследванняў).
- **Наталля Архіпенка. Браслаў**. Старадаўні парк "Бяльмонты" – асабліва ахоўваемы аб'ект НП "Браслаўскія азёры"
- **Святлана Касцюкевіч. Наваполацк**. Дзейнасць народных майстроў Браслаўшчыны.
- **Уладзіслаў Ляскоўскі. Шаркаўшчына**. Нямецкая карная аперацыя "Герман".1943 г.
- **Мечыслаў Копаць. Вроцлаў. Польшча**. Генеалогія шляхецкага роду Копацяў.
- **Віктар Раманаў. Браслаў**. З гісторыі стварэння Браслаўскай дзяржаўнай сельскай гідраэлектрастанцыі (Друйская ГЭС).
- **Аляксандр Егарэйчанка. Мінск**. Гарадзішча Рацюнкі (па матэрыялах экспедыцыі БДУ).
- **Алег Французаў. Мінск**. Браслаўскія землі ў перыяд маскоўска-літоўскіх войнаў першай паловы XVI ст.
- **Кліменцій Кожан. Германавічы**. Жыццё і творчасць мастака і паэта Пятра Касцюкевіча.
- **Аляксандр Панцялейка. Браслаў**. Краязнаўства і Інтэрнет: сучаснае прадстаўніцтва рэгіёна ў глабальнай сетцы.
- **Кастусь Шыдлоўскі. Браслаў**. З гісторыі Друйскага Барысавага камня.

$16^{00} – 17^{00}$ Дыскусійны стол. Закрыццё канферэнцыі.
$17^{00}$ Ад'езд удзельнікаў.

## *Куток калекцыянера*

Калекцыянераў паштовак (філакартыстаў) можа зацікавіць выданне, падрыхтаванае да юбілея Ст.Нарбута мінскім выдавецтвам "Рыфтур".

На паштоўцы, на прыгожым фоне змяшчаецца партрэт Станіслава Нарбута, выкананы мінскім мастаком Уладзімірам Кандрусевічам. Партрэт быў створаны ў 2002 годзе і дэманстраваўся на некалькіх выставах. Зараз яго можна ўбачыць на выставе ў Музеі традыцыйнай культуры. Над партрэтам на паштоўцы гады жыцця лекара, пад партрэтам - імя і прозвішча на беларускай і англійскай мовах. На адвароце таксама двухмоўны тлумачальны тэкст.

Паштоўка выпушчана зусім невялікім накладам – 100 паасобнікаў. Наклад разышоўся сярод удзельнікаў і гасцей "Браслаўскіх чытанняў–2003". У планах выдавецтва – дадрукаваць наклад, каб гэты цікавы сувенір маглі набыць ахвочыя.

* * *




Браслаўскае музейнае аб'яднанне яшчэ ў 2002 годзе хадайнічала перад Міністэрствам сувязі Беларусі аб ушанаванні юбілея Станіслава Нарбута выпускам маркі. Дапамогу ў гэтым аказаў даўні сябар музея і Браслаўшчыны фотакарэспандэнт Яўген Казюля. Аднак аказалася, што планы выдавецтва "Марка" ужо былі зверстаны. Міністэрства прапанавала адзначыць юбілей выпускам мастацкага канверта з арыгінальнай маркай.

Праца была даручана мастаку Віктару Сташчанюку, якому музей прадаставіў неабходныя гістарычныя матэрыялы. Мастак вельмі адказна падышоў да заказу і распрацаваў удалы мастацкі канверт. На арыгінальнай марцы мы бачым партрэт Станіслава Нарбута на фоне лячэбніцы. Унізе змешчаны лаканічны надпіс: "Станіслаў Нарбут. Урач, доктар медыцыны. 1853–1926". Злева размешчаны дзве замалёўкі. Адна – гэта помнік-маяк на Замкавай гары, другая – від Браслава з Замкавай гары паводле здымка 30-х гадоў.






Мастак падрыхтаваў і эскіз штэмпеля першага дня, цэнтральнае месца якога займае змяя над чашай – агульнапрызнаны медыцынскі сімвал.

Міністэрства сувязі дазволіла арганізатарам "Браслаўскіх чытанняў" правесці спецгашэнне штэмпелем першага дня ў будынку гімназіі пры адкрыцці канферэнцыі. Канверты і штэмпель прыбылі ў Браслаў раніцай 7 мая і праз якую гадзіну ўдзельнікі і госці канферэнцыі сталі ўдзельнікамі спецгашэння. Канверт са штэмпелем стаў выдатнай памяткай з чытанняў. Разам з тым, гэта адметны філатэлістычны сувенір, які будзе цікавым для калекцыянераў ва ўсім свеце. Спецгашэнне праводзіцца толькі адзін дзень, пасля чаго штэмпель павінен знішчыцца. Мастацкія канверты без штэмпеля жыхары Браслава могуць набыць у аддзяленні сувязі.

# НОВЫ МУЗЕЙ

29 красавіка ў Друйскай сярэдняй школе адчыніў дзверы школьны краязнаўчы музей. Ідэя стварэння музея ў думках настаўнікаў і вучняў вітала ўжо даўно. Як высветлілася, яшчэ ў 1994 г. выказвалася падобная ідэя. І вось толькі зараз рэальна здзейснілася даўняя мара.



Друя – адзін са старажытных населеных пунктаў Браслаўшчыны. Яе гісторыя вельмі насычаная і багатая падзеямі. Варта згадаць, што праз Друю па Заходняй Дзвіне праходзілі купцы, мужна баранілі сваю Радзіму абаронцы колішняга замка, Друю ўпрыгожвалі будынкі колішніх храмаў, добры след пакінулі на гэтай зямлі славутыя Сапегі. Злата Ліліна, Уладзімір Беняшэвіч, Ізраіль Вейцэр, Альтэр Друянаў, Тамаш Падзява – іх усіх аб'яднала друйская зямля. Нам засталася багатая спадчына былога магдэбургскага места. І сёння кожны можа пабачыць велічны комплекс кляштара з Троіцкім касцёлам, узведзеныя ў 1643-46 гг., рэшткі Петрапаўлаўскай і Добравешчанскай царкваў,якія спадзяемся, з часам будуць адноўленыя, асобныя дамы друянаў і канешне знакаміты Барысаў камень.



Да ставарэння музея прычынілася шмат людзей: вучні прыносілі экспанаты, настаўнікі на чале з дырэктарам В.В.Мятла вырашалі арганізацыйныя пытанні. Не засталося ўбаку зямляцтва яўрэяў-выхадцаў з Друі, якое часткова прафінансавала падрыхтоўчыя працы, Браслаўскі гістарычна-краязнаўчы музей, прадаставіўшы гістарычны матэрыял і курыраваўшы працы.

Асобна трэба згадаць пра галоўных каардынатараў, тых, хто ўдзельнічаў у распрацоўцы навуковай і мастацкай канцэпцый будучай экспазіцыі. Гэта настаўнікі Міхаіл і Галіна Ставіцкія. Яны афармілі вітрыны і стэнды, прадставілі наведвальніку магчымасць па створанай дыяраме ўявіць Друю ў XVIII ст.

На адкрыцці прысутнічала кіраўніцтва мясцовага пасялковага савета, ветэраны вайны і працы, былыя настаўнікі, пробашч каталіцкай парафіі, прадстаўнікі аддзела адукацыі, цэнтра дзіцячай творчасці, музейнага аб'яднання. На старажытнай зямлі, пад гукі скрыпак гучалі пранікнёныя вершы, напісаныя вучаніцай Марыяй Масляковай.

## Друі

Там, дзе імклівы Полацкі Рубон
Гарэзу-Друйку прымае ў абдымкі,
Мінаючы стагоддзяў перазвон
Стаіць мая маленькая Радзіма.
Ужо шмат вякоў яна мяжу вартуе
І чулася на розных мовах уздоўж ракі
Імя кароткае і ёмістае – Друя,
Што выклікалі па начах вартаўнікі.
Сышліся тут у адну раку-гаворку
Габрэйцы, беларусы, латышы,
Гарацъ кастры на Ліга-Яна на ўзгорках
І на Купалле па рацэ плывуць вянкі.
Расла, адораная Магдэбургскім правам,
Была затоплена раз'юшанай Дзвіной,
Амаль што знішчана бязлітасным пажарам,
Шмат навідала ў дні мінуўшчыны сівой.
Ты чула нераможны кліч гусар Кульнева,
Ты бачыла ў Сапежыне шыкоўныя балі
І рукапіснае Евангелле – святое слова
Тут рукі майстра ў аксаміт неранялі.
Хаваючы пакутнікаў габрэйскіх,
Тут плакала збалелая зямля.
Вайна даніну жорсткую збірала,
Няпоўнай стала кожная сям'я.
Ідуць гады, мінаюцца стагоддзі,
У імклівай плыні страчвасцца час.
Як многа згублена, разбурана пад сонцам ...
Не абмінае нас гадзіна страт.
Вось, нібы пасівелая ўдава,
На стромкім беразе шырокае ракі,
Знявечаная, сумная царква
Пустымі вокнамі глядзіць на берагі.
Імкнуцца белай птушкай у блакіце
Касцёлу Марыянскага крыжы.
І кружыць бусел над старой капліцай,
Благаслаўляючы жывое на зямлі.
Не верыцца ў дрэннае, ліхое.
Няўмольнасць лёсу не прымаю ані дня.
Жыві ў шчасці, міры і спакоі
Радзіма ненаўторная мая.

# У ПОШУКАХ КАРАНЁЎ

*Тым, хто цікавіцца гісторыяй Браслаўшчыны, знаёма постаць знакамітага ўдзельніка паўстання 1794 г. пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі брыгадзіра Юзафа Копаця (1762–1827 гг.). Ю. Копаць вядомы таксама як аўтар "Дзённіка...", у якім апісвае свае прыгоды падчас ссылкі на Камчатку, падарожжа па Сібіры. Мемуары брыгадзіра каштоўныя як крыніца аб звычаях і быце тубыльцаў гэтых рэгіёнаў Расіі. "Дзённік..." некалькі разоў перавыдаваўся, быў высока ацэнены сучаснікамі, у прыватнасці Адамам Міцкевічам. Юзаф Копаць апошнія гады жыцця правёў у маёнтку Лушнева, хаця нарадзіўся брыгадзір на Палессі, на Піншчыне. Маёнткам Лушнева валодалі з пачатку XVIII ст. яго сваякі. Прадстаўнікі роду Копацяў згадваюцца ў Браслаўскім павеце з XVI ст. У прыватнасці, маршалкам Браслаўскага павета з 1597 г. быў Богуш Копаць, прывілей на гэта падпісаў Жыгімонт III.*

*Грунтоўны артыкул пра Ю. Копаця даследчыка з Санкт-Пецярбурга Валянціна Грыцкевіча змешчаны ў кнізе «Памяць» Браслаўскага раёна, экспазіцыя, прысвечаная брыгадзіру, ёсць у гістарычным музеі.*

*У бягучым годзе музею ўдалося ўстанавіць кантакт з прамым нашчадкам Ю. Копаця – Мечыславам Копацем. Прапраўнук брыгадзіра жыве ў польскім горадзе Вроцлаве, па прафесіі – ветэрынар, зараз на пенсіі. Гісторыя роду з'яўляецца захапленнем пана Мечыслава, які збірае сямейны архіў, звесткі па генеалогіі Копацяў (М. Копаць – старшыня Вроцлаўскага аддзялення Саюза польскай шляхты). Дзякуючы пану Мечыславу, музей атрымаў шэраг каштоўных матэрыялаў, якія дазваляюць пашырыць нашы веды пра героя паўстання 1794 г. і яго нашчадкаў.*

*Апошняя карэспандэнцыя ад М. Копаця ўтрымлівала артыкул, які мы ў перакладзе з польскай мовы з нязначнымі скарачэннямі прапануем увазе чытача.*

*Змяшчаем таксама ілюстрацыйны матэрыял, дасланы панам Мечыславам.*

У сямейным архіве, які застаўся мне ад бацькі Багдана, знайшоў два цікавых дакументы. Першы – гэта распіска аб перадачы маім дзедам Стэфанам 3 сакавіка 1909 года рэліквій, якія адносяцца да *"Генерала Копаця, 2 карты, 17 любоўных лістоў, а таксама 41 дакумент рознага зместу..."*, разам з тым два партфелі Генерала Копаця – як сямейны дэпазіт Копацяў. Гэтыя матэрыялы прыняў і пацвердзіў факт атрымання ўласнаручным подпісам і пячаццю пан Луцкевіч, сябра Імператарскага археалагічнага інстытута ў Пецярбургу і захавальнік Беларускага аддзела Львоўскага касцельнага музея, кіраўнік гістарычна-этнаграфічнага аддзела Віленскага музея Таварыства Сяброў Навукі. Як адзначаецца ў дакуменце, матэрыялы перададзены для Беларускага аддзела Львоўскага касцельнага музея (хаця са зместа не бачна адназначна, што толькі там былі размешчаны згаданыя рэліквіі). Другі дакумент – гэта распіска, напісаная на рускай мове. Там пішацца: *"...Праўленне Таварыства Аматараў Навук у горадзе Вільні засведчвае, што для ствараемага архіва Таварыства праз сябра Таварыства Івана Луцкевіча прынята ад спадароў Стэфана, Юзафа і Фелікса Станіслававічаў братоў Копацяў...* (Стэфан – гэта мой дзед – аўтар) *на дэпазіт рукапісы, якія ў першую чаргу датычацца асобы генерала-брыгадзіра польскай арміі Юзафа Копаця, а таксама некаторых іншых членаў сям'і Копацяў..."* Далей ідзе пералік дакументаў – усяго 50 рукапісаў, карта, партфелі і цікавы запіс, які адзначае, што калі Таварыства будзе ліквідавана, ці па якіх прычынах будзе перапынена яго дзейнасць, то дэпазіт павінен быць вернуты ахвярадаўцам ці каму з іх нашчадкаў. Ліст-распіска быў складзены 5 лютага 1913 года.

Паколькі я даўно цікаўлюся гісторыяй свайго роду, і асабліва постаццю генерала Юзафа, паспрабаваў адшукаць перададзеныя на дэпазіт дакументы, а таксама іншыя сямейныя матэрыялы ў розных архівах. У перыяд існавання таталітарных рэжымаў у Польшчы, Літве і Расіі такая праца была немагчымай. У сучасных умовах можна было паспрабаваць. Праўда, сябры гісторыкі папярэджвалі мяне, што архівы Літвы і Украіны не аддаюць арыгіналаў, найлепей дабівацца ксеракопій і фотакопій. Калі занадта настойліва нагадваць аб арыгіналах, можна натыкнуцца на негатыўную рэакцыю. Да таго ж дакументы лепш захаваюцца ў дзяржаўных архівах, чым у прыватнай кватэры. Такім чынам, разлічваў на ксеракопіі. За дапамогай звярнуўся да знаёмых віленчукоў. Аднак аказалася, што дадзеную працу правесці не так проста. Праз пэўны час звярнуўся з лістом у Генеральнае консульства Літвы ў Варшаве, у якім прасіў садзейнічання ў завядзенні непасрэдных кантактаў з Гістарычным архівам Літвы. Ліст пераслалі ў Генеральнае консульства ў Вільні і неўзабаве атрымаў прыязны ліст ад консула з адрасам архіва, а таксама з інфармацыяй, што мая просьба аб вяртанні дакументаў ці іх ксеракопій перададзены кансультантам дырэкцыі архіва.

На жаль, у лісце, які атрымаў з архіва, мне паведамілі, што ў дакументах з пераліку ахвярадаўцаў Таварыства Сяброў Навукі не знойдзены прозвішчы маіх продкаў, затое зберагаюцца розныя матэрыялы аб Копацях гербаў Кроя і Любіч. Адзначалася, што шмат дакументаў архіва пасля апошняй вайны вывезена ў Польшчу і Швецыю (?!). Архіў запрашаў мяне прыехаць і папрацаваць у чытальнай зале, каб самастойна выявіць гэтыя матэрыялы.


Dziennik

Першая старонка «Дзённіка брыгадзіра», які быў цалкам перапісаны з арыгіналу яго сынам Юзафам



Крыж, які Юзаф Копаць зрабіў на Камчатцы

Відавочна, што мяне цікавілі дакументы аб Копацях герба Кроя. Пасля аплаты паслуг архіва атрымаў ксеракопію дакумента: "...Выпіска з Кніг шляхецкіх Літоўска-Віленскай губерні па паходжанні роду народжаных Пергарэвічаў Копцяў герба Кроя...". Дакумент пачынаўся наступнымі словамі: *"Году 1820, месяца красавіка 6 дня. Перад намі, Міхалам Ромерам, радным стану маршалкам губернскім, кавалерам ордэна Св.Ганны другога класа, старшынствуючым і дэпутатамі з павета Літоўска-Віленскай губерні для прыёма і разгляду шляхецкага паходжання абрашылі былі праведзены аб радавітасці шляхецкага роду народжаных Пергарэвічаў, Копацяў (герба Кроя), з якіх вынікае, што даўняе паходжанне шляхецкага роду копацяў даволі грунтоўна апісана ў польскіх аўтараў, у тым ліку граф Е.Курапатніцкі, кашталян Белзкі і кавалер розных ордэнаў пры апісанні лініі ўладзімірскіх князёў у частцы 1 гербоўніка ў пункце 9 на картцы 43 сцвярджае, што бяруць пачатак Копці з князёў цвярскіх. Як сведчыць рэвізія польскай шляхты ад 09.03.1552 г. яны мелі замак у Полацку. З гэтага роду было шмат мужоў сенатарскай годнасці, а таксама людзей знаных на іншых публічных пасадах, заслужаных перад польскім народам. Гісторыя польскай дзяржавы напоўнена хваласпевамі аб учынках і годнасці знакамітых асобаў роду. Аб тым, якія пасады і заслугі мелі ў Каралеўстве Польскім іх продкі, сведчыць Volumina Logum. У прыватнасці, у Канстытуцыі 1569 г.* (Люблінская ўнія – рэд.) *на картцы 52 бачна, што Васіль Копаць, пасол ад Полацкага ваяводства падпісаў Акт уніі Літвы і Кароны Польскай. У 1528, 1580, 1589, 1601, 1613 і 1616 гадах Ян, пісар, і Богуш, падкаморы, з Браслаўскага павета, Павел з Мсціслаўскага павета, Лукаш, падкаморы, Васіль, падкаморы, з Берасцейскага павета, Філон, маршалак, з Лідскага павета – усе гэтыя Копаці былі прызначаны ад соймікавага саслоўя..."*. Напрыканцы дакумент канстатуе, што *"...Матэвуша Андрэевіча з сынамі Юстынам і Ігнатам, Адама Янавіча, Ігната Каралевіча з сынамі Ізідорам, Фабіянам і Лявонам, таксама Станіслава Андрэевіча Пергарэвічаў Копацяў – прызнаём за радавую і даўнюю шляхту польскую, абвяшчаем аб гэтым і ў Кнігу шляхты Літоўска-Віленскай губерні першага класа паводле ўказа ад 5 мая 1801 года запісваем..."*

Аднак аказалася, што ў цяперашні час вядомы не кашталяны, ваяводы, старосты, сенатары, пісары (за выключэннем вузкага кола гісторыкаў), а брыгадзір-генерал паўстання Касцюшкі Юзаф Копаць. Менавіта ён быў маім прапрадзедам.

(працяг у наступным нумары)

## *Выдавецкія навіны*

*Браслаўскае музейнае аб'яднанне сумесна з краязнаўчым таварыствам падрыхтавала выданне "Каталог матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці Станіслава Нарбута. З фондаў Браслаўскага музейнага аб'яднання". На сённяшні дзень збор у Браславе з'яўляецца самым поўным і можа ўяўляць цікавасць для даследчыкаў, журналістаў, краязнаўцаў. Комплекс нарбутаўскіх матэрыялаў складаецца больш чым з 350 адзінак захоўвання. Сярод іх – фотаздымкі з сямейнага архіва Нарбутаў, копіі яго фотаздымкаў, падараваныя музею ўнучкай лекара Янінай Гелерт, ксеракопіі архіўных матэрыялаў з Вільні, Каўнаса, Маладзечна, Мюнхена, матэрыялы, сабраныя супрацоўнікамі музея, шматлікія публікацыі пра Ст.Нарбута і род Нарбутаў, рукапісы даследчыкаў і г.д. А пачыналася ўсё, як адзначае ўкладальніца каталога Ірына Шыдлоўская, з аднаго невялікага візітнага фотаздымка з партрэтам Ст.Нарбута. Для фарміравання комплекса нарбутаўскіх матэрыялаў спатрэбіліся гады напружанай працы ўсяго музейнага калектыву.*

*Каталог мае 10 раздзелаў, сярод якіх: "Матэрыялы аб Ст.Нарбуце, выяўленыя на Браслаўшчыне", "Матэрыялы аб Ст.Нарбуце, перададзеныя ўнучкай Станіслава Нарбута", "Сведчанні старажылаў пра Ст.Нарбута", "Матэрыялы да гісторыі помніка" і інш. Выданне ілюстравана. Кампутарны набор і вёрстку каталога выканаў сябра краязнаўчага таварыства Валеры Буко. Наклад (100 асобнікаў) раздрукаваны пры дапамозе ВЦ "Сумежжа". Зшыўку і абрэзку бясплатна выканалі супрацоўнікі Пастаўскай друкарні.*

## *Выставы*

# "Свецячы іншым, згараю сам..."



Назвай выставы стаў агульнавядомы дэвіз медыкаў, якім пры жыцці кіраваўся таленавіты браслаўскі лекар. Выстава разгорнута ў Музеі традыцыйнай культуры. Плошча выставачнай залы дазволіла стварыць даволі абшырную экспазіцыю. Такая колькасць нарбутаўскіх матэрыялаў выстаўляецца ўпершыню і наведвальнікі маюць унікальную магчымасць пабліжэй пазнаёміцца з постаццю Станіслава Нарбута.

Цэнтральнае месца займае інсталяцыя "Жылы пакой мястэчковага інтэлегента пачатку ХХ стагоддзя", утвораная з мэблі і прадметаў той пары. У архіве г.Маладзечна ўдалося адшукаць дакумент з апісаннем начыння дома Нарбутаў у Браславе, і для выставы імкнуліся падабраць падобныя рэчы. У інсталяцыю арганічна ўпісаўся партрэт Станіслава Нарбута, працы мастака Уладзіміра Кандрусевіча.



Гістарычныя матэрыялы пададзены па раздзелах: "З гісторыі роду Нарбутаў і нараджэнне Ст.Нарбута", "Вучоба Ст.Нарбута", "Пачатак працы на Браслаўшчыне і працы на пасадзе сельскага ўрача", "На пасадзе павятовага лекара", "Грамадская дзейнасць", "Сям'я Ст.Нарбута", "Смерць і пахаванне", "Нашчадкі Ст.Нарбута". На стэндах – вялікая колькасць арыгіналаў фотаздымкаў, якія наведвальнікі ўбачаць упершыню. Комплексамі пададзены прадметы, звязаныя з медыцынай, грамадскімі захапленнямі лекара. Завяршае выставу раздзел, у якім экспануюцца выданні, прысвечаныя Ст.Нарбуту.

Выстава атрымалася не толькі пазнавальнай, але і прыгожай, светлай.

# Час Станіслава Нарбута

Выстава разгорнута ў памяшканні гістарычна-краязнаўчага музея і прысвечана важнейшым вехам гісторыі, сведкам якіх давялося стаць Станіславу Нарбуту (1853-1926 гг.).

Станіслаў Нарбут быў 10-гадовым хлопчыкам, калі пачалося нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863 года, якім у Беларусі і Літве кіраваў Кастусь Каліноўскі. Актыўны ўдзел у паўстанні прымала сям'я Нарбутаў. На стэндзе змешчаны выданні, прысвечаныя ўдзелу Нарбутаў у выступленні, матэрыялы, якія расказваюць аб гібелі брата Станіслава – Людвіка, які быў адным з лепшых камандзіраў партызан. Наступны стэнд прысвечаны Вільні. Экспануюцца старыя паштоўкі з відамі горада, у якім Станіслаў атрымаў гімназічную адукацыю, побытавыя рэчы. Асобным комплексам падаюцца матэрыялы пра Браслаўшчыну канца ХІХ-пачатку ХХ стст. – фотаздымкі мястэчак, маёнткаў, вёсак, у якіх неаднойчы бываў лекар, разнастайныя прадметы. Найбольш матэрыялаў прысвечана маёнтку Бяльмонты. З уладальнікамі гэтага маёнтка Плятэрамі Нарбут быў цесна звязаны. Шмат цікавых экспанатаў выстаўляецца на стэндзе, прысвечаным першай сусветнай вайне – салдацкія запальнічкі, свяцільнікі, франтавыя дакументы, фотаздымкі. У гады гэтай вайны Ст.Нарбут быў мабілізаваны і насіў мундзір падпалкоўніка. Ст.Нарбут быў сведкам віхурных рэвалюцыйных падзей, гадоў грамадзянскай вайны, станаўлення польскай адміністрацыі ў перыяд Заходняй Беларусі. З гэтага часу паходзяць шматлікія фотаздымкі Браслава, дакументы, прадметы. Тады, у 1919-1925 гг., Ст.Нарбут займаў адказную і цяжкую пасаду павятовага лекара. Яшчэ два стэнды выставы займаюць медыцынскія выданні ХІХ-пачатку ХХ стст. і частка калекцыі аптэчнага посуду. Выстава дазваляе не толькі падрабязней пазнаёміцца з дзейнасцю Нарбута, але і паглыбіцца ў гісторыю Браслаўшчыны перыяда жыцця лекара.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS

ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.

Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: braslavmc@vitebsk.unibel.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»